# Куды глядзіць міліцыя?...

***Нельга сказаць, што на Мядзельшчыне міліцыя, суд і пракуратура бяздзейнічаюць. Аднак забяспечыць належны правапарадак ім ніяк не ўдаецца. Больш таго, сітуацыя с захаванасцю законнасці пастаянна пагаршаецца. Хваля цяжкіх злачынстваў набірае пагражальнае паскарэнне. Аб гэтым яскрава сведчыць такі факт: у мінулым годзе іх учынена шаснаццаць, а сёлета — ужо трыццаць шэсць. Пра што і гаварыў на чарговай сесіі раённага Савета пракурор раёна Канстанцін Ганчар.***

Найбольш абурае, што многія злачынствы можна было прадухіліць. Так, жыхар вёскі Унукі Уладзімір Куцкевіч, знаходзячыся ў нецвярозым стане, ударыў у сваёй хаце нажом у грудзі Віктару Куцкевічу, які ад ранення памёр. У ходзе следства ўстаноўлена, што яшчэ ў канцы мінулага года У. Куцкевіч параніў нажом В. Куцкевіча. Ён неаднаразова, будучы на падпітку, сварыўся з аднавяскоўцамі, пагражаў забойствам, падпаліць хаты. Аб гэтым было вядома работнікам Нарацкага курортна-пасялковага аддзялення міліцыі, участковаму інспектару. Аднак ніхто з іх належных мер рэагавання не прыняў. Такіх супрацоўнікаў міліцыі, якія не займаюцца прадухіленнем правапарушэнняў, па меркаванню К. Ганчара, кіраўніцтву РАУС неабходна прыцягваць да адказнасці.

Да гонару работнікаў крымінальнага вышуку, у раёне раскрыты ўсе забойствы, цяжкія цялесныя пашкоджанні, рабаўніцтвы. Горш абстаяць справы з крадзяжамі маёмасці: са 137 злачынстваў не раскрыты 47.

Нятанна абыходзяцца нядбайныя адносіны да захаванасці дзяржаўнай маёмасці кіраўнікоў, работнікаў бухгалтэрыі. Напрыклад Арцём Грыгаран падрабіў плацёжнае даручэнне і па ім шляхам махлярства, змог загрузіць на птушкафабрыцы "Зара камунізму" 544320 яек на 309 мільёнаў 960 тысяч рублёў. І толькі па чыстай выпадковасці аферыста затрымалі.

Шмат цяпер крадуць і ў гаспадарках, разукамплектоўваюць тэхніку. У калгасе "Восаўскі" трактарысты І. Петрачэнка, В. Галдыцкі, С. Аўрайцэвіч, знаходзячыся ў нецвярозым стане, укралі з КЗС-20 два электрарухавікі коштам 2 мільёны 600 тысяч рублёў. Злодзеі іх разбілі, дасталі медзь і прадалі яе на наступны дзень на базары ў Маладзечне за 40 долараў ЗША. Наваяуленым камерсантам дорага абыйшоўся такі "бізнес", але і гаспадарка засталася без двух вельмі патрэбных электрарухавікоў.

Напружанасць у забеспячэнні грамадскага парадку тлумачыцца таксама паслабленнем барацьбы з п'янствам. За парушэнне антыалкагольнага заканадаўства толькі у МПМК-214 да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута ажно 64 работнікі, у аграфірме "Зара" – 77, калгасе "Будслаўскі" – 48.

Некалькі слушных заўваг наконт работы праваахоўных органаў выказалі і выступоўчыя ў спрэчках па дакладу. Так, старшыня калгаса "Свір" Генадзь Юхно заўважыў, што раней у міліцыю бралі толькі па накіраваннях працоўных калектываў. Цяпер чамусьці ад такой практыкі адмовіліся, у праваахоўныя органы пачалі трапляць людзі, якіх туды і блізка нельга падпускаць...

Начальнік РАУС Іван Сымановіч значную ўвагу ў сваім выступленні ўдзяліў крадзяжам з магазінаў, якім спрыяюць трухлявыя будынкі, сімвалічныя запоры. Некаторыя гандлёвыя пункты рабуюць па некалькі разоў на год. Не могуць не турбаваць і грубыя парушэнні правілаў дарожнага руху. Найбольш небяспечныя з іх— п'янства за рулём. У тым жа калгасе "Будслаўскі" за ўпраўленне ў нецвярозым стане транспартнымі сродкамі затрымана васемнаццаць чалавек, патнаццаць з іх— механізатары.

Сесія прыняла адпаведнае рашэнне. Магчыма, яно дапаможа ў навядзенні правапарадку на тэрыторыі раёна.

***Янка ВАСІЛЕЎСКІ.***

# Новы год у новай кватэры, якую зрабілі самі.

Чатыры цялушкі, дзве каровы, свінаматка і залатыя рукі мужа— менавіта за кошт усёй гэтай "жывой" гаспадаркі мы набылі добраўпарадкаваную двухпакаёвую кватэру— з усмешкай гаворыць Марына Савіч, настаўніца адной са школ Маладзечна. На сваім нядаўнім наваселлі яна ахвотна параіла, што трэба рабіць, каб сям'я з чатырох чалавек такую ў свой час жаданую, доўгачаканую аднапакаёўку змяніла на "харомы".

Расклад просты: сваю былую кватэру на Лясных прадалі за 6800 долараў, у цэнтры купілі за 12. Пазыка склала паўтары тысячы, зарабілі "ўсім светам" за тры гады 5200. Сухія лічбы, за якімі стаіць мэтанакіраваная дзейнасць па набыццю грошай.

—Мы з мужам з вёскі,— расказвае Марына. У яго хворыя старыя бацькі, таму стаўку зрабілі на маіх. Пашырылі гаспадарку: набылі другую карову. У снежні Зорка з Машкай целяцца— у лістападзе цялушкі рэжуцца. Мяса прадавалі на рынку ў Мінску, не змагла я ў Маладзечне гандляваць, бо шмат знаёмых— вучні, іх бацькі— сарамелася. Пакупнікоў не падманвалі, але рассяканне рабілі хітра: каб на выгляд мяса было больш за костку, а на вагах костка цягнула значна больш за мяса.

Калі не прыедзеш у вёску, заўсёды каля плоту сустракала пасросная свінаматка. Калі пашанцуе, яна прынясе 10 парасят, прымалі і па шэсць. Адлічвалі пяць тыдняў і— на продаж.

Матчына хата стаіць паблізу дач. Прыватнікам круглы год прадавалі малако, смятану. Усе бакі былі задаволены. А мой малодшы брат Рыгор асабліва. За дастаўку тавара гаспадарам на дом меў працэнт.

Ну і павандравала я таксама. Расія, Польшча, Літва. Даліся мне гэтыя камерцыйныя паездкі – страўнікам пачала хварэць. У асноўным вазіла абутак, спартыўныя касцюмы. Назад— долары. Куды не трапляла— абавязкова знаёмых сустракала. У Вільнюсе з дзядзькам адным пасварылася— мая цана яго не задавальняла. А потым разгаварыліся, і ён аказаўся маёй бабулі па маці траюрадным пляменнікам.

Мой муж па спецыяльнасці цясляр, працуе на будаўніцтве. А ў вольны час — вечарам, па выхадных, святах падрабляе. У яго залатыя рукі. Якасць гарантуе, таму і расцэнкі трымае на ўзроўні. Крые дах, абшывае столь. Тры лазні зрубіў на продаж.

Вельмі сябравалі мы з мясцовым калгасам. Хабар насілі спецыялістам, кіраўніцтву ўвесь час. Затое мелі дзялкі лёну, бульбяныя палеткі і транспартам заўсёды былі забяспечаны.

Двое дзяцей у нас. Наталля – шасцікласніца, Ігар ходзіць у трэці клас. На здзіўленне, а можа на жаль і смутак, дзеці далучыліся да збірання грошай. Дачка дзесці даставала цікавыя рэдкія маркі і прадавала значна даражэй сяброўкам. На апошні Новы год маім дзецям Дзед Мароз паклаў пад ёлку цукерку "Селена" і заколку ў валасы. Але нягледзячы на ўсе складанасці, мы ніколі не сядзелі без ежы, заўсёды халадзільнік быў запоўнены— выручала вёска.

Гэты Новы год будзем сустракаць у новай кватэры. Бянтэжыць толькі тое, што яе нумар трынаццаты. Але спадзяёмся, што ўсё будзе добра.

***Парады запісаў***
***Васіль САВІЦКІ***

## Выпраўляем недарэчнасць.

# "Затое сумленне чыстае"

Менавіта так было названа аўтарам інтэрв'ю з Г. С. Таразевічам, апублікаванае у мінулым нумары "РГ". Але адбылася прыкрая недарэчнасць. Па віне рэдакцыі ў загалоўку была дапушчана памылка. Просім прабачэння ў Георгія Станіслававіча і нашага аўтара – Янкі Васілеўскага.

***Рэдакцыя "РГ".***

# "Мама, я не хачу ў інтэрнат!"

***Трэці год у дзіцячым садзе № 28 Маладзечна працуе спецыяльная група для дзяцей з парушэннем слыху. Яе наведваюць шасцёра дашкольнікаў рознага ўзросту, у адных з якіх прыроджаная глухата, у іншых — набытая, як вынік перанесенай хваробы ці няправільна назначаных лекаў. Выбілі адкрыццё гэтай групы бацькі дзяцей, бо разумелі, што без дапамогі спецыялістаў не змогуць падрыхтаваць іх да школы, навучыць вытлумачвацца пры дапамозе жэстаў, многаму іншаму.***

Цяпер з хлопчыкамі і дзяўчынкамі займаецца сурдапедагог Анжаліка Канякіна, шмат часу аддае ім лагапед Людміла Мянцюк. У дзяцей паступова выпрацоўваюцца многія неабходныя для іх навыкі, некаторыя ўжо ўмеюць чытаць, спрабуюць вымаўляць асобныя гукі і словы. Бацькі радуюцца разам з імі, але адначасова не могуць не трывожыцца за іх будучае. Чацвярым выхаванцам спецгрупы пайшоў сёмы год, у верасні наступнага года ім ісці ў школу. Але ў якую?

Выбар для такіх дзяцей наша "гуманная" дзяржава пакідае невялікі: спецшкола-інтэрнат для дзяцей з парушэннем слыху. Бліжэйшая знаходзіцца ў Ждановічах пад Мінскам. У лепшым выпадку бацькі будуць бачыць дзяцей па выхадных. У горшым – толькі на канікулах. "Пастаянна чытаць у вачах майго Дзімкі нямое пытанне: чаму вы дома, усе разам, а я там, сярод чужых людзей,— я не змагу гэтага вынесці",— гаворыць адна з маці, арганізатар дабрачыннага грамадскага фонду "Камертон" Таццяна Папова. Яна не хоча аддаваць сына на выхаванне дзяржаве, адрываць яго ад сям'і, яна ў сілах вырасціць яго сама. Дык чаму нашы законы не пакідаюць права выбару ёй, маці? Разам з іншымі мацеркамі Таццяна абівае парогі самых розных інстанцый і збіраецца паехаць да Прэзідэнта. "Ён у адным са сваіх выступленняў абяцаў дапамагчы дзецям - інвалідам. А што мы маем на сённяшні дзень? Жывём учатырох у маласямейцы, ільготы па кватрплаце скасавалі. Адзінае – дык гэта тэлефон як ільготнікам правялі".

Чаго ж хоча дабіцца Таццяна і яе сяброўкі па няшчасцю? Адкрыцця ў горадзе класа з інтэграваным навучаннем, дзе б змаглі займацца і іх дзеткі. Загадчыца сада № 28 Юлія Кісялёва гатова прыняць такі клас пад сваю страху, дапамагаць усім, што ў яе сілах. Не так шмат і патрэбна для таго, каб мара жанчын здзейснілася: сурдапедагог і выкладчык рытмікі, неабходная колькасць хворых дзяцей (іх павінна набрацца шасцёра) і, зразумела, жаданне дапамагчы ім у мясцовых чыноўнікаў – работнікаў аддзела адукацыі, гарвыканкома.

...Шасцёра дзяцей. Здавалася б, зусім нямнога. Шасцёра нязломленых лёсаў. Шасцёра чалавечкаў, штодня абагрэтых мацярынскім цяплом. Гэта бясконца шмат...

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА***

# Смачныя былі кумпячкі

За час работы памочнікам муляра ў Ракаве мінчанін Барыс П. не раз звяртаў увагу на даверлівасць местачкоўцаў. "У сталіцы людзі хаваюць дабро сваё за сямю замкамі – ставяць двайныя, жалезныя дзверы, рашоткі, сігналізацыю. А тут усё па-ранейшаму. Вунь, дзверы ў хляве: штурхані добра плячыма – яны разам з замком і выляцяць,"– разважаў ён аднойчы на добрым падпітку. А калі сцямнела, не вытрымала сэрца злодзея: як гэта не паспытаць дармавой кураціны?

...Раніцай ракаўчанін П. Цімаховіч па звычцы выйшаў пакарміць сваіх чубатак. Аднак убачыў у хляве ад іх толькі пер'е. Куры, а іх у яго знікла аж 18 штук, накіроўваліся ў двух мяхах ужо ў сталіцу. Гаспадар аб прапажы пасаромеўся нават у міліцыю паведаміць. Маўляў, людзі прападаюць і не знаходзяцца, а тут куры. У міліцыі і без мяне спраў хапае...

А Барыс П. тым часам ладзіў вогнішча з кампаніяй у лесе недалёка ад Мінска. Рыхтаваў каралеўскую страву з усіх курэй.

Прайшоў час, і Барыс ужо з сябрамі едзе "гасцяваць" на Валожыншчыну. Выбралі жывапіснае месца каля Аксакаўшчыны, на возеры. Крыху адпачылі, пазагаралі хлопцы ды і час паесці настаў. З'ездзілі ў Ракаў за гарэлкай. Выпілі, сціпла закусілі.

Не журыцеся, яшчэ не вечар,– падміргнуў Барыс сябрам.– Будзе вам каралеўскі стол.

Калі сцямнела, машына зноў накіравалася да Ракава. Прыхапіўшы з сабою у памочнікі аднаго з хлопцаў, злодзей пайшоў па старых адрасах. На гэты раз прыхапіў двух парсючкоў, 16 куранят і чатыры курыцы. Усё паскідваў у мяхі і праз некалькі хвілін з памочнікам ужо цягнулі жыўнасць да машыны.

...Усю ноч над возерам чуваць былі песні, смех. Закуска, як і абяцаў Барыс, сапраўды была адмысловай.

Аднак на гэты раз гаспадары маўчаць не сталі і звярнуліся ў міліцыю. У хуткім часе Барыс П. быў затрыманы. Меру пакарання яму вынесе суд. А пакуль гэтаму спецыялісту па курыных і свіных кумпячках за пастаўку закускі ў "зялёны рэстаран" без папярэдняй дамоўленасці з гаспадарамі давялося выплаціць у якасці кампенсацыі 2 мільёны 395 тысяч рублёў.

***Іван БОРСКІ.***

## Ліст ад земляка

# Высакародная місія аб'яднання

Добры дзень, мая "Рэгіянальная газета"!

Так, аўтар гэтых радкоў не памыліўся, хоць у руках трымаў толькі №18 маладзечанскага выдання, які купіў у пачатку верасня, знаходзячыся ў родных мне свірскіх мясцінах нашага цудоўнага нарацка-маладзечанскага краю. Лёс так распарадзіўся, што пасля скасавання Маладзечанскай вобласці і Свірскага раёна, жыццёвыя шляхі прывялі мяне на 15 гадоў у Міёры і вось ужо 21 год адпрацаваў у Віцебску, за трыста вёрст ад Свіра і Маладзечна.

Але на Свіршчыне бываю штогод, бо тут прайшлі 22 гады маіх дзяцінства і юнацтва. Трывожныя, апаленыя вайной і пасляваеннымі цяжкасцямі, гады вучобы, сталасці, кахання, пачатку працоўнага шляху. Радаваўся за кожны новы дом у Свіры, Камарове і Канстанцінаве, Сырмежы і Вішневе, Лылойцях і Сыраватках, Падольцах і Спондах, Жукойнях і Кямелішках.

У 1956-1959 гадах амаль кожны тыдзень ездзіў па справах у Маладзечна праз Смаргонь або Вілейку, а зімой праз Нарач-Мядзел.

1947 год... У старажытны, заснаваны яшчэ ў 13-м стагоддзі князем Даўмонтам невялічкі гарадок Свір, ля якога пралягае шлях Стэфана Баторыя з Вільні ў Полацк, пайшлі першыя маршрутныя аўтобусы на Маладзечна і Вільню, а затым і грузатаксі ў Мінск. На жаль, Маладзечанскую вобласць і Свірскі раён амаль 36 гадоў назад па жывому парэзалі на часткі без уліку шматвяковай повязі паселішчаў.

"Рэгіянальная газета" узяла на сябе высакародную місію — духоўна аб'яднаць землякоў.

Ёсць і прапановы-пажаданні "Рэгіянальнай газеце".

Першае. У загалоўку акрамя райцэнтраў не забывайце і былыя нашы раённыя сталіцы: Крывічы і Свір, Радашковічы і Івянец, Ілля і Юрацішкі;

Другое. У склад Маладзечанскай (Вілейскай) вобласці з 1939 да 1960 года ўваходзіў Пастаўскі (без далучанага Дунілавіцкага) раён, Іўеўскі — з верасня 1944 да студзеня 1954 года; а Юрацішкаўскі – з верасня 1944 г. да студзеня 1960года.

Пажадана наладзіць сувязі і не забываць землякоў з гэтых нашых абшараў.

Трэцяе. Будзем спадзявацца, што на старонках кожнага нумара "Рэгіянальнай газеты" у новым годзе з'явіцца цікавыя захапляючыя матэрыялы аб мястэчках Маладзечаншчыны з багатым мінулым. Такія як: Камаі і Кямелішкі, Княгінін і Будслаў, Варняны і Міхалішкі, Нарач (Кабыльнік) і Куранец, Вішнева і Крэва, Войстам і Жодзішкі, Солы і Лебедзева, Ракаў і Краснае, Гальшаны і Забрэззе, Бакшты і Трабы і г.д.

Чацвёртае. Вельмі пажадана праз "Звязду", "Народную газету", другія выданні інфармаваць землякоў з Маладзечаншчыны, што жывуць у розных кутках Беларусі, аб магчымасці трымаць сувязі з "Рэгіянальнай газетай".

Поспехаў Вам і творчага плёну.

***Кінаработнік Янка ТЫШКО,***
***родам, сэрцам і душой са Свіра,***
***які жыве ў Віцебску.***

